№ 38 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 38 (234). Год III. Вільня, 10 мая 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 9 мая.

Заходні тэатр:

Між Іпэрн і Байель жывая артылерыйская бітва. Мясцовые атакі на паўдня ад возера Дікебуш былі для нас удачны. На шырыні двох клм. мы ўзялі моцные непрыяцельскіе пазыціі. Мы ўзялі 675 палонных і зробілі непрыяцелю крывавые страты. Пры Альбэр англіцкіе наступленьні. Мы ўзялі там палонных. На поўнач ад ручча Люс і на ўсходнім беразі Авр крапчэйшая агнявая бітва. На розных мясцох фронту ўдачные разведкі.

---

За апошніе тры дні непрыяцель утраціў 37 самалётаў.

Усход.

На паўночным бэразі Азоўскага мора мы дайшлі да утоку Дону і занялі Ростов. Перэговоры аб граніцы з Расеей пачнуцца ў бліжэйшые дні.

---

БЭРЛІН. Пры пахове забітых у часе бітваў на вуліцах у Гельсінгфорсе нямецкіх салдатоў член фінляндзкага ўраду Талас сказаў мову: „Нямецкіе героі палі за волю Фінляндзіі, яны крывавые сьведкі нашае незалежнасьці, іх кроў дасць расткі шчасьця для будучых пакаленьняў фінляндзкага народу“.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Фінляндзкая газэта «Hufwudsdagblat» выходзіць цяпер апрача швэдзкай, яшчэ ў нямецкай мове. Апрача гэтага, выходзіць асобная газэта па нямецку.

РОТТЭРДАМ. Палажэньне англіцкага ўраду крытычнае с прычыны заявы яго, што пры назначэньні ніжней палатай селедственнай камісіі яно зараз жэ пойдзе ў адстаўку. Пісьмо генэрала Мурыс'а скіравано проціў Лёйд-Джорджа і вінаваціць яго ў неправільным паказаньні фактаў ў ніжней палаце аб палажэньні англіцкай арміі. Спроба peралажыць адказ за апошніе неўдачы з ураду на ваенную каманду прызнаецца нячэснай.

БЭРЛІН. Камісія Рэйхстагу дастала ад клерыкальнай партыі прэдлажэньне не згадзіцца на гарэлачны монополь.

БЭРЛІН. Камісія Рэйстагу ў праве аб зьмені констытуціі прыняла параграф 1-й праекту, па катораму лічба дэпутатаў Рэйхстагу павялічываецца с 397 да 441, пры гэтым адзін дэпутат выбіраецца ў округе маючым не болей як 300 тысяч жыхараў.

БЭРЛІН. Урадова. (В.Т.Б.). Наш падводны крэйсэр вярнуўся з блакаднай зоны навакол Зондзкіх астравоў, затапіў там 9 цэнных параходаў, 7 парусьнікаў і адзін італьянскі ўспаможны крэйсэр «Sterrop» разам на 48,247 м. Мы здабылі на іх дзьве гарматы. Разам с караблямі затоплено 600.000 пудоў збожжа, 500.000 пудоў мукі, 300.000 пудоў рыжу, 380.000 пудоў купры, 680.000 нафты, а таксама бавоўны, солі, скур і іншых дарагіх матэр'ялаў.

БУКАРЭШТ. Румынскіе газэты выказываюць здаволеньне с прычыны міру. Цяпер глаўная задача пабудаваць будучыну краю на лепшым фундамэнце чымся гэта было раней.

ВАШЫНГТОН. (Рэўтэр). Між Амэрыкай і Норвэгіей зроблена агульная гандлёвая умова.

ЛОНДОН (В.Т.Б.). З Вашынгтону наказываюць: ў маі месяцы будзе набор у 305.000 чэл. і апрача таго, 6.207 ваенных рамесьнікаў.

Вышэйшы адміністрацыйны суд у Злучэных Штатах загадаў, што ў гэту вайну салдаты могуць быць пасланы ўва ўсе часьці сьвету для ваенных патрэб.

---

# Незалежная Беларусь.

„Беларускі Шлях“ у № 30 пішэ:

„Як мы пісалі, ўжо кіеўскіе беларусы выдаюць газэту «Беларускае Слова». Цяпер мы атрымалі 3 нум. гэнай газэты (ад 1, 8 і 15 красавіка) і з іх падамо тутака некалькі вестак аб Кіеўскім беларускім жыцьці.

У Кіеў прыежджала дэлегацыя ад Мозырскага павету які на моцы п. 2 мірнай умовы далучаны да Украіны і цяпер уходзіць у Валынскую губ. Дэлегацыя даведалася старшыню Рады Народных Міністраў укр. рэсп., катораму падала заяву, што ў Мозырскім павеце жывуць толькі беларусы. П. Галубовіч з гэтым згадзіўся і сказаў, што павет мае быць далучаны на аснове самаазначэньня жыхараў.

Некаторы час у Кіеві гасьціў камісар адэсскай беларускай ваеннай арганізації п. Баліцкі, мэтай яго былі перагаворы с Кіевам аб устанаўленьні ядынай беларускаў арганізацыі на тэрыторыі Украіны. 7 красавіка п. Баліцкі ў аўдыторыі універсытэту рабіў паведамленьне аб адэсскіх арганізацыях. Канчаючы паведамленьне п. Баліцкі сказаў:, „Браты беларусы! Прынашу вам прывітаньне ад беларусаў што жывуць у Адэсі і яе ваколіцах. Карыстаючы з быцьця тутака прэдстаўнікаў беларускага ўраду вітаю у іх асобах увесь народ беларускі, аб каторым мы верные сыны Беларусі жадна ловім кожнае слова, якое прыпадкам заляціць да нас... Радасна спаткалі мы вестку аб Беларускім урадзе, пасьля смутнай весьці аб разгоне Усебеларускага з'езду.. Хтоб убачыў гэтые радасные твары, пачуў крыкі, якіе былі пры паведамленьні адным аднаго аб гэтым, той бы зразумеў, што жыве Беларусь і ніколі не загіне. Мы беларусы вялікіе патрыоты і любім сваю родную, змучаную і злітую крывёй Беларусь... Усімі сіламі мы павінны падтрымоўваць наш часовы ўрад, каторы, будзем спадзевацца за нашай помаччу не дапусьціць падзелу Беларусі. Ніхай жыве Вольная Беларусь! Ніхай жыве беларускі Устаноўчы Сойм“!

Новазаложэная вялікая арганізацыя ў Кіеві адкрыла аддзел для помачы ўцекачом і рэгістрацыйнае бюро для ўсіх беларусаў, якіе жывуць у Кіеві. 29 сакавіка член арганізацыі Н. Разумоўскі чытаў лекцыю „аб сучасным і будучым становішчу Беларусі“.

У кватэры беларускай вайсковай арганізацыі атчыніліся курсы беларусазнаўства. Лекціі чытаюць пр. пр. М. В. Доўнар-Запольскі і В. З. Завіткевіч.

У хуткім часе пачне выходзіць штомесячная часопіс „Беларуская Мысль“ выдаўніцтва беларуск. коопэратываў на Украіне. Гатуецца да выданьня пераклад на беларускую мову кнігі А. В. Пешехонова. «Аб нацыяналізацыі зямлі».

Патрэбнасць арганізацыі ў Беларусаў на Украіне расьцець. Адусюль ідуць просьбы, паведаміць аб арганізацыі, выслаць газэт».

---

*Вільня, 10 мая 1918.*

Дзяржаўная ўласць можэ лічыцца сільнай, дужой толькі тады, калі яна апіраецца на шырокіх массах, калі ў патрэбі за яе можэ паўстаць увесь народ. Уласць, каторая не мае каранёў у народзі, ад першага ўдару можэ рассыпацца, не пакідаючы па сабе ніякага сьледу.

Яркі прыклад гэтага дала Расея. Панаваньне расейскіх цароў апіралося на цямноце народных масс, каторым праз сотні гадоў убіваліся ў галаву думкі, бытцым цар — гэта „зямны бог“. Але сьледам за вызваленьнем селян ад паншчыны, сьледам за першымі праменьнямі прасьветы, дайшоўшымі ў цёмную расейскую вёску, у народзі расейскім пачынае выяўляцца крытычнае адношэньне да гэтай уласьці, якая ўмее выціскаць з народу ўсе сокі ды нічога яму за гэта не дае. Неўдачная вайна з Японіей была першым ударам для царызму і вызвала рэвалюцію 1905 году. Аднак, самадзержаўны ўрад затушыў тады народны рух волі ў моры крыві і ўдзержаў сваю ўласць. За тое цяперашняя вайна давяршыла тое, чаго не ўдалося зрабіць у 1905 гаду, і царызм, утраціўшы паддзержку народных масс, счэз.

Нешта падобнае сталося з урадам Керэнскага. Народ скідаючы цара, верыў, што рэвалюція дасць яму волю і мір. Але Керэнскій ня толькі не даў міра, а далей вёў крывавае дзела і давёў Расею да новых неўдач на палёх бітв, змарнаваўшы сотні тысяч людзей. І калі Керэнскага скінулі большэвікі, апавешчаючы мір, народ не задумываючыся, пайшоў за імі. А як той жэ народ зразумее, што большэвіцкая палітыка давела Расею да поўнай руіны і голаду, дык і большэвіцкі ўрад будзе прымушэн уступіць сваю ўласць другому.

Аднак, каб народные массы папраўдзі станавілі апору ўласьці, трэба, каб яны былі **организованы.** Гэта павінны палажыць у аснову

сваей працы будаўнічые Беларускай дзержавы.

Беларускі ўрад ўжо пайшоў па гэтай дарозі. Мы ужо дзяліліся з нашымі чытачамі весткамі аб тым, што ўласць беларускага ўраду ў Меншчыне, Магілеўшчыне, новаокупованай часьці Віленшчыны і г. д. прызналі ўжо местовые і земскіе самаупраўленьні (хаця апошние і не зусім годзяцца с палітычнымі мэтамі ўраду), прызналі мейсцовые беларускіе рады, як магілёўская, бабруйская ды многа іншых. Трэба думаць, што гэткіе рады будуць ладзіцца ўсюды — па ўсіх местох, паветах, і валасьцёх Беларусі, ды гэтак утворыцца стройная організація беларускага народу, каторая дасць патрэбную паддзержку, дасьць сілу свайму ўраду.

Варункі жыцьця Беларусі з гэтага боку беларускай гранічнай лініі дагэтуль не далі магчымасьці беларусам організавацца на такіх жэ асновах. Аднак, і тут наладжэна цэнтральная нацыональная установа ў сэрцы краю, Вільні: Беларуская Рада, каторай Беларуская Конфэрэнція 25-27.I 1918 даручыла кіраўніцтва нацыональным жыцьцём. Гэты цэнтр і вядзе беларускую палітычную работу, маючы туюж мэту, як і беларускі ўрад у Менску: злучэньне ў вадно ўсіх Беларускіх земель і здабыцьце незалежнага дзержаўнага быту. Каб жэ гэтага дайсьці, ўсе сьвядомые беларусы па нашых местох, вёсках і мястэчках, не зьвязаные яшчэ з Радай павінны кожын у сваім куце рабіць беларускую работу, будзячы і паглыбляючы нацыональную работу ў нашым народзі і прыгатаўляючы яго да чыннага учасьця ў будаваньні сваей дзержавы, да якога — мы ў гэта цьвёрда верым — ён будзе прызван ужо ў недалёкай будучыні. Толькі гэтак не змарнуем мы часу і ў момэнт, калі па ўсей Беларускай зямлі запануе свая ўласць, будзем гатовы паддзержаць і ўмацаваць яе.

## З навук вайны.

Вайна паставіла беларусаў твар проці твару з народамі Заходу. І на палёх бітв, і ў гаспадарскім жыцьці, і ў адміністрацыйнай машыне мы бачылі перэвагу над намі нямецкага народу, якая выплывае с прасьветы і організованасьці нашых заходніх суседзяў. А тые з жыхараў нашай зямлі, якіе пападалі ў Нямеччыну ці то як ваенна-палонные, ці як работнікі, ці нават як арэштанты, сустрэчаліся тамака і с прэдстаўнікамі француськага, англіцкага, бэльгійскага і іншых народаў, каторые ваюють з Нямеччынай. І тут мелі магчымасць прыраўнаваць сваё жыцьцё да іхнага.

Вось, што апаведае нам адна асоба, прабыўшая блізка 2 гады ў аднэй з катаржных турэм у Нямеччыне.

З нашага Краю было тамака каля 800 арэштантак. У тым ліку граматных усяго . . . дзьве! А ўсе арэштанткі француські, бэльгійкі і іншые—ўсе былі граматны. Нашы нічога ня ўмелі: ніякіх работ ні рэмесла. Тые-ж задзіўлялі нашых сваім уменьнем шыць, вышываць, гафтаваць і т. п. Калі нашы атрымлівалі пасылкі ад сваіх (бадай выключна ад сваіх мужыкоў з Расеі), дык з'едалі ўсё самі да апошняй крошкі. Калі-ж пасылкі прыходзілі француськам, бельгійкам або іншым, тые ахвотна дзяліліся с таварышкамі, асабліва звертаючы ўвагу на хворых, і наагул, жылі дружна, адна адну паддзержываючы. Аб падобнай солідарнасьці ў нас зусім не чуваць, і бадай німа такога другога краю, дзе бы людзі з вялікшай ахвотай шкодзілі сваім бліжнім, як у нас...

Прасьвета і організованнасць ды грамадзкая солідарнасць — вось, чаго нам найбольш не хапае. І, угледаючыся на тое, як наладжэно ўсё гаспадарскае жыцьцё ў Нямеччыне, як там жыве вёска, як і чаго вучыць школа,—беларусы павінны знайсьці тут для сябе навуку, як і на якіх фундамэнтах павінны яны будаваць сваё новае жыцьцё на вольнай зямлі Беларускай.

*Г. Б.*

## Мінуушчына.

Быў калісь слаўны час, калі звон вечавы
Зычны покліч свой слаў за замчышча равы.
Слаў ад княжскіх харом да убогіх хацін
Ды на вечэ склікаў сярод грозных хвілін.

І ішоў вольны люд. І ждаў Полацк гасьцей,—
Князь ждаў гнеў, ці хвалу. Дудар граў весялей.
Не гулі віхры, гром; не шумеў зялён бор:
То судзіло суды і давало прастор
Вольным думкам сваім вечэ вольных сыноў
Крывічанскай зямлі, вечэ шчасных гадоў.

„Князя-злыдня прагнаць! Між дружыны ёсць муж
„Слаўны добрай душой, і на мудрасць ён дуж.
„Гаспадарыць яму! Князям выбраць яго!“
Такі сказ край пачуў, пачуў з веча таго.

Полацк знаў, што рабіў. Бо, калі Жмудзь з лясоў
Запалоніла край, што быў згінуць гатоў
Вось, тады не мячом Полацк край ратаваў:
Блескам мудрых вачей Вільню ён паканаў,
С цёмных, дзікіх лясоў вывеў ворагаў ён,
У рукі сьветач ім даў, даў ім правы закон.

**Л. Родзевіч** („В. В.“)

## У Вільні і ваколіцах.

× **Беларускі тэатр**. Сёлетні сэзон Беларускага тэатру ў Вільні, пярэчыць лацінскай прыказцы аб тым, што Музы маўчаць пры звоне аружжа. Ен адзначываўся вялікім чыслом прэм'ер. Мы першы раз бачылі ажно 3 п'есы: „Калісь“, драматычны абразок у 2 актах, „Бутрым Няміра«, усцэнізаваная легенда ў 2 актах с пролёгам, і „Манька“, п'еса з мешчанскага быту ў 4 актах. Аўтор усіх паменёных п'ес—кіраўнік Драматычнай Дружыны, п. Ф. Олехнавіч. Гожэ адзначыць, шко нідаўна выйшла з друку яшчэ адна п'еса гэтага-ж аўтора—„Базылішк“, казка ў 3 актах, тэмай для каторай паслужыла вядомая віленская легэнда аб страхацьці —Базылішку, жыўшым некалі ў лёхах пад Бакштай і сваім паглядам убіваўшым людзей. П'еса не была іграна дзеля таго, што ў ёй ёсць надта шмат асоб, а лічбы членаў Драматычнай Дружыны помала, каб разабраць усе ролі.

Спэктаклі ладзіліся толькі на сцэні Беларускага клюбу. З новых п'ес былі іграны паменёные ўжо (по 3 разы кожная).

Са старых п'ес былі пастаўлены: „На вёсцы“ Ф. Олехновіча (3 разы), „Дзед і Баба“ (2 разы), „Міхалка“ (2 разы), „Мядзьведзь“ Чэхова—з расейскага (2 разы), „У купальскую ноч“ (1 раз) і інш.

У самым складзе Драматычнай Дружыны былі перамены: некаторых асоб, каторые ігралі ў леташнім сэзоне, ў сёлетнім—мы ўжо на беларускай сцэні не бачылі; за тое Дружына папоўнілася новымі членамі, між каторымі можна было заўважыць асобы с талентамі.

За іх ахвотную безінтэрэсоўную працу для будовы фундамэнтаў роднага тэатру выражаем на гэтым мейсцы ад імі тэатральнай публікі словы падзякі.

× **Беларускі камітэт** будзе выдаваць рыж для хворых бедных і дзяцей у пятніцу, 10 мая, ў памяшчэньні Беларускай Народнай Страўні № 31 (Сьв. Юрскі праспэкт 22) ад 11 да $^{1}/_{2}1$ гадз. Трэба с сабой канечна прыносіць пастаянные карты на хлеб.

× **Дармовых абедаў** за месяц красавік Беларускі Камітэт выдаў 2.462. У тым ліку праз Беларускую Народную Страўню—1.680, бонамі ца іншых стравень—782.

На Вялікдзень вучвям беларускіх школ у Вільні і наагул бедным дзецям камітэт раздаў дарма 200 нямецкіх фунтаў пшонай мукі, 150—гарохавай і 150—бульбяной.

× **Пажары**. 5 мая раніцай каля гадз. 7-й ў д. Сакалова (Монюшкі № 14) быў пажар: ад печы загарэлася сьцена і столь ў кватэры Турлы. Цэнтральны пажарніцкі аддзел праз гадзіну агонь загасіў.

6 мая а 2 гадз ў начы на Новым Месьці (вул. Розбрат № 11) ў дзерэвянным доме Мякінкова пачаўся ад невядомай прычыны пажар. Агонь хутка абняў і суседні

# Аб трусох.

*Напісау В. Грынеускі.*

**Трус** (*Lepus cuniculus*) або, як яго часам называюць, **песак**, вядомы ўсюды. Само называньне яго адзначывае яго трусьлівасць. Гэты невялікі зьвярок належыць да сасуноў, бо дзяцей сваіх выкормлівае малаком. Зьверы, падобные да труса, твораць адну групу грызуноў (*Rodentia*). Трус належыць да сям'і зайцоў (*Lepowidae*). Бацькаўшчына яго—Гішпанія, адкуль ён развёўся блізка па ўсей зямлі.

Есць трусы дзікіе і хатніе.

**Дзікі** трус на пагляд падобны да зайца, толькі ён болей стройны і меншы. Галава, вушы і задніе ногі карацейшые, чымся ў зайца. Важыць ня болей, як $1^{1}/_{2}$ кгм. Даўжыня цела 40,5 цтм., с каторых на хвост прыпадае 6,5 цтм. Усё цела пакрыта шэрсьцю. Шэрсць мае коляр шэры, каторы зверху пераходзіць у коляр жоўта-буры спераду ў чырвона-жоўты, а па бакох у сьветла-іржавы. Хвост аднастайны — зверху чорны знізу белы. Дзікі трус сам дабывае сабе корм. Выбірае мейсцовасьці гарыстые, або пешчаные з дробнымі кустамі, гдзе могбы схавацца. Жыве ў нарах. Норы рые глыбокіе, кожная нора мае шмат ходаў і кожны ход з некалькімі выхадамі.

Трус **хатні** вялікшы за дзікага. Коляр шэрсьці можэ быць белы, жоўты, цёмна-буры, чорны і інш. з рознымі адценкамі. Хатні трус вельмі плодны: адна пара можэ даць у год 80 штук. Аднак, да гадоўлі найлепей браць трусоў **заводных**, каторых як мяса, так і скурка цэніцца болей чымся трусоў хатніх.

Злучаючы трусоў розных відаў, людзі патрапілі праз некалькі дзесяткоў лет вывясьці шмат рас. Усе расы можна падзяліць на 3 групы.

Група першая: трус белы польскі, трус расейскі, або гімалайскі і трус срабрысты (сіямскі).

Другая група: трус венскі.

Група трэйцяя, да каторай належаць расы агромнай вялічыні, як напр.: трус патагонскі, трус фляндрыйскі і трус баран англіцкі.

На гняздо самкі выбіраюць цёмные куты, а прад самым вывадам дзяцей выскубываюць сваю шэрсць, каторай высьцілаюць гняздо.

Трусы дзікіе, хатніе і заводные родзяцца сляпые.

### Расы трусоу.

Трус польскі найменшы: важыць толькі 3 клгр. Галава круглая, вушы, шыя, хвост — кароткіе, нос грубы. Шэрсць снежна-белага коляру без крупінак, вочы светла-рожавые. Мяса вельмі смачнае Самку, маючую, 7 месяцаў, ужо можна злучаць. За адзін раз самка прыводзіць 8 дзяцей. Першые 9 дзён малые бываюць сьляпымі; у гэты час ім трэба прамываць вочы цёплай вадой. Трусы гэтай расы вымагаюць добрага дагляду і вельмі чыстага утрымываньня. У ядзе не пераборлівые.

### Трус расейскі.

Трус расейскі адзначаецца пекнай формай галавы і цела. Шэрсць срабрыста-белая, галава вузкая, вушы стаячые, вочы чырвона-бліскучые, ногі, верх хваста і вушы чорнага коляру. Трусы гэтай расы трэба бараніць прад сонечнымі праменьнямі, ад каторых пекны срабрысты — белы коляр робіцца жоўтым, а чорны-рудым. Раса гэта не баіцца халадоў, адзначаецца плоднасьцю, самкі нп. прыносяць пяць разоў у год па 5-10 штук. Вага ўзрослага труса ад $2^{1}/_{2}$ да 3 кгм.

### Трус срабрысты.

Трус срабрысты родам з Азіі, з Сіяму. Галава шырокая, вушы невялікіе, шыя кароткая, вочы цёмна-бліскучые, хвост доўгі, задзёрты ўверх, пярэдніе ногі кароткіе. Шэрсць густая, мяккая, вельмі пекная — коляру старога срэбра. Да гадоўлі трэба браць трусоў з выразнымі адзнакамі сваей расы, пры гэтым самец каб быў непадобны да самкі. Так, калі самец сьветлага коляру, то самка павінна мець цёмны коляр, калі самец з вялікай галавой, то' самка каб была з малой. Коляр шэрсьці сярэдні: не ясна і ня цёмна срабрысты лічыцца самым дарагім. Белые кіпці у трусоў гэтай расы становяць вялікую ганьбу, і на гэта пры куплі трэба зварочываць увагу. Самка радзіць 6 разоў у год па 5-6 штук. Вага цела даходзіць да 3 кгм. Раса гэтая меней за другіх падлегае хваробам.

### Трус венскі.

Гэтага труса можна залічыць да рас вялікіх. Важыць ён да 6 кгм. Коляр шэрсьці аднастайны —.шэра-нябесны. Вочы і кіпці тагож самага коляру. Галава круглая, — вялікая; вушы стаячые, вельмі развітые

Ірляндзіі, дзе арэштованы 200 палітычных дзеячаў.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе аназешчэньня:**

**7.V. Заходні тэатр:**

На палёх баталіі раніцай крапчэла артылерыйская бітва. На паўночным беразі Ліс адкінуты наступленьні англіцкіх рот. Між Авр і Соммай атакаваўшые аўстралійцы ля дарогі Сэрбі—Брэ здалелі дайсьці да нашай пярэдняй лініі. Ў іншых месцох іх штурмы зламаўся пад нашым агнём. Пры Курсі ў часе разведак мы ўзялі палонных.

**Усход.**

У порці Марыуполя нас абстрэлівалі расейскіе параходы.

**Азіяцкі тэатр.**

Пасьля вострых бітв, трываўшых 5 дзён, наступленьне англіцкіх брыгад пры Ерыхоне адбіто. Разам с туркамі ў бітве прыніма лі ўчасьце і нашы войскі. У англічан узята значная дабыча.

**8.V. Заходні тэатр:**

На паўдня ад каналу Нюпорт мы ўзялі палонных бэльгійцаў. На полі бітвы Фляндрыі і ля Ліс артылерыйская бітва павялічылася пры Кемеле і пры Байель. Ля Сом на разведках мы ўзялі ў палон англічан і французаў. Наабапал Сэрбі—Брэ пасьля вялікага мінната прыгатаваньня непрыяцель наступіў, але быў адкінуты. Вялікае агнявое дзеіньне ля ручча Люіс і на заходнім беразі Авр.

**КАЛЯ ВАЙНЫ.**

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак у канале Ляманш затапіла 5 параходаў, усяго на 16000 тонн.

## АБВЕСТКІ.



# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прысланць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

(Кніжкі азначаные *біс* — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі.

## Навуковые даступные для усіх.

| | Цэна руб. кап. |
|---|---|
| біс Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменнік. Біографічны нарыс Р. Земкевіча | — 20 |
| Praktyčnye rady ab harodnictwie | — 7 |
| Гутаркі аб небі і зямлі з рысункамі | — 15 |
| Цукер, В. Трэйцы | — 3 |
| Гутаркі аб гаспадарцы | — 3 |
| Як ратаваць уздутую жывёлу | — 3 |
| Як бараніцца ад халеры | — 1 |
| Як рабіць добрые рамовые вульлі | — 5 |
| Зямельная справа у Новай Зэляндіі | — 6 |
| Каротская гісторыя Беларусі—Власта | — 3 |
| Як выбіраць дэпутатоў у Гас. Думу | — 20 |
| На дарозе да новаго жыцьця. А. Новіны | — 2 |
| Alkahol | — 3 |
| Rady dla matak | — 3 |
| Našto biełarusam gazety | — 10 |
| Колькі слоў аб дзявочай опратцы на Беларусі | — 3 |
| Pčalina—żywiołka małaja a karyści daje mnoha | — 10 |
| Як багацеюць чэскіе селяне | — 30 |

## Беларускіе тэатральные творы.

| | |
|---|---|
| Хам. Абраз у 4-х дзеях, Э. Ожэшко | — 30 |
| Сватаньне. Жарцік у 1-й дзеі, Чэхова | — 30 |
| Мядзьведзь. Жарцік у 1-й дзеі, А. Чэхова | — 50 |
| Міхалка. Камэдыя у 1 дзеі | — 7 |
| Па рэвізіі. Абраз у 1 дзеі, Кропіўніцкаго | — 25 |
| Пашыліся ў дурні. Жарт Кропіўніцкаго у 3-х дзеях | — 30 |
| Як яны жаніліся. Жарт у 1 дзеі, А Володського | — 36 |
| «Паўлінка», камэдыя у 2 дзеях, Я. Купалы | — 75 |
| Снатворны мак. Сцэна для дзіцячых тэатроў | — 10 |
| Betlejka | — 5 |

## Гадавікі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Наша Ніва 1906 году | 1 р. — к. | Наша Ніва 1910 году | 3 р. — к. |
| „ „ 1907 „ | 15 р. — к. | „ „ 1911 „ | 3 р. — к. |
| „ „ 1908 „ | 5 р. — к. | „ „ 1912 „ | 5 р. — к. |
| „ „ 1909 „ | 3 р. — к. | „ „ 1913 „ | 2 р. 50 к. |

Календары 1910, 1911, 1912, 1913, 1914 г. па 15 к., 1915 г. па 20 кап. 1916 г. па 15 кап., 1917 г. па 20 кап.

**Вільня, Завальная 7. Беларуская Кнігарня.**

Прысылаючы грошы почтай трэба адрэсаваць так: **Wilnia, Wahlstrasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.**



Друкавана ў друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.